 Народная Газета

*Попытка частного журналистского расследования*

# Загранкомандировка,

## или Почти детективная история под названием “Оптический обман”

### Необходимое предисловие

**Перед тем, как приступить к частному журналистскому расследованию, я внимательно перечитал целую “обойму” публикаций о загранкомандировках, которые с осени прошлого года косяком пошли по страницам газет. А объектом столь пристального внимания прессы стал директор Сморгонского завода оптического станкостроения С.А.Пелих.**

**Первый “пробный шар” бросила “Звязда”, затем (дважды) “Беларускі час”, позднее — “Свободные новости” и, наконец, “Прессбол”. Должен оговориться сразу: точка зрения по самому факту загранкомандировок директора у каждой газеты была своя. “Беларускі час”, опубликовав заметку “А хто ”хросныя бацькі”?”, с завидной оперативностью откликнулся другой заметкой “Не там шукаеце ”ворагаў народа”, где прежние обвинения в адрес С.А.Пелиха фактически снимались, что делает честь газете. “Свободные новости” пошли своим путем: однозначно стали на защиту делового человека из Сморгони. Факт, как видим, один — загранкомандировки директора. Вот только прочтение — разное... А тут еще коллеги-журналисты из газеты “Сморгонский станкостроитель” “подбросили” на сей счет свою версию. Согласитесь, чем не завязка для детектива, который так обожает читатель-обыватель? Я отложил насущные дела в сторону и взял билет до Сморгони...**

**Наш разговор в рабочем кабинете директора был сугубо конфиденциальный в присутствии одного “свидетеля” — диктофона. По иронии судьбы (иных версий у меня нет) у моего собеседника в запасе всего часа два-три — он уезжает в очередную командировку, на этот раз, правда, в зарубежье ближнее — в Калининград. А тема нашей беседы, как вы уже догадались, его, директорские, загранкомандировки и все, что с ними связано. Мой собеседник — вовсе не мальчик со студенческой скамьи, человек не простой, и я деликатно намекаю, что мои вопросы будут жесткими и каверзными. Сергей Александрович любезно соглашается и, в свою очередь, обещает говорить “правду и ничего, кроме правды”...**

**— Думали ли вы, Сергей Александрович, что настанет такой день и час, когда завод оптического станкостроения попадет, выражаясь армейским языком, “под дембель” и монстр в лице Министерства оборонной промышленности Союза ССР отправит заводчан на “гражданку”?**

— Если честно, нет. Но случилось то, что случилось... Под надежным крылом “оборонки” нам, конечно, жилось безбедно. Созданный в 1972 году как первенец отечественного оптического станкостроения, наш завод за два десятка лет стал одним из самых мощных в мире производителей уникальной вакуумной техники и технологии, причем технологии экологически чистой. Мы многого достигли и по линии социального развития: в провинциальной Сморгони (говорят так, я вкладываю в это понятие самый хороший смысл) вырос городок в городке. Хозспособом построено много жилья, современный комплекс общественного питания с подсобными цехами, куда вошли мясной цех, охотничье хозяйство, теплицы и пасека, имеем собственную базу отдыха, спортивный комплекс “Юность”, оздоровительно-восстановительный центр, создали садоводческое товарищество, летний школьный городок “Лесная сказка” с профилакторием на его базе, имеем свой центр подготовки и переподготовки кадров, практически решили проблему с детскими дошкольными учреждениями. Короче, мы повернулись лицом к человеку труда, наращивая тем самым самый ценный капитал — интеллектуальный... Но, оказавшись, как вы сказали, “на гражданке”, завод, будучи несказанно богатым, в одночасье стал... бедняком. А вся трагикомедия в том, что разорвались по живому прежние экономические связи, возникла масса проблем со взаимными банковскими расчетами с Россией, Украиной, другими республиками, а главное — мы потеряли рынки сбыта.

**— Как это — потеряли?**

— Поясню. Оборудование с маркой нашего завода раньше продавалось в основном в страны бывшего соцлагеря в рамках СЭВа, и все без исключения сделки осуществляла за нас торговая фирма бывшего Министерства оборонной промышленности Союза ССР. Валюты завод не имел вовсе, вместо нее нам выплачивали эквивалент в “деревянных” рублях... В 1991 году мы получили юридическую самостоятельность. Заводская внешнеторговая фирма “СЗОС” фактически все начинала с нуля: и выход на связь с инофирмами, и заключение контрактов напрямую с фирмами-покупателями, минуя посредников, и создание СП. Словом, непростую науку бизнеса пришлось начинать с азов. А тут еще один суперпарадокс: вакуумные линии и установки, оптические и металлорежущие станки, товары народного потребления, рожденные в заводских КБ, лабораториях и цехах, хотя по качеству и надежности и не уступающие лучшим мировым аналогам, на мировом рынке были прикрыты вуалью таинственности. Как НЛО.

**— А при чем тут НЛО?**

— Да при том, что всего два-три года назад наше оптическое оборудование и технологии помечались грифом “секретно”, деловой мир практически нас не знал, а рынок сбыта был ограничен.

**— Оптический обман да и только... И как вы нашли разгадку загадки? Прорубили окно в Европу?**

— Прорубили. И не только в Европу, но и в Азию, в Америку... Причем этот прорыв был по многим направлениям. Работа нас ждала колоссальная. Но альтернативы не было: или мы сможем прорваться через все преграды на мировой рынок, или в перспективе предприятие высокого класса и передовых технологий превратится в заурядную артель... Скажу больше, мы торопили события, ибо сделали ставку на стабильность: сможем заявить о себе в мире бизнеса, заполним экспортный вакуум, создадим привлекательный имидж своему заводу, тогда в деловых кругах заговорят о сморгонской марке.

**— И сколь долгим бывает путь к мировому признанию?**

— Сошлюсь на опыт японских фирм “Тойота”, “Ниссон”, южнокорейской “Самсунг”. К признанию они шли более десятка лет. Причем все эти годы работали едва ли не в убыток себе и почти половину прибылей тратили на маркетинговые исследования, на броскую рекламу, выпуск каталогов и проспектов, изучение конъюнктуры и, конечно же, на поездки своих специалистов в поисках партнеров и рынка сбыта.

**— И вы тоже взяли ориентир на “восточный вариант”?**

— Да. Наши полпреды побывали не только в странах СНГ и в странах ближнего зарубежья — Польше, Венгрии, Болгарии, Австрии, но и зарубежья дальнего — в Китае, Южной Корее, США, Канаде, Объединенных Арабских Эмиратах, Нигерии. Рекламировали уникальное в своем роде оптическое оборудование, изучали конъюнктуру, приценивались, учились торговать, подписывали протоколы намерений, договоры о создании СП. Я и сам в прошлом году по согласованию с Госкомпромом, конечно, многократно выезжал — дважды в Польшу, затем — в Норвегию, Швецию и Финляндию, в составе рабочей группы СНГ была поездка в США и, наконец, Эмираты.

**— Представляю, во что вылилась ваша и ваших коллег “кругосветка”...**

— Да, затраты немалые. Да, в валюте. Но вспомните пословицу о скупом, который вдвойне платит... А за загранкомандировками (за которые нас как раз и упрекают) — десятки выгодных контрактов, мы наладили партнерские отношения с фирмой “Новум” из Белостока, с канадской компанией “Вестман Трейдинг Интернешил ЛТД”, зарегистрировали СП “Инбонд Система ЛТД” в Торонто и теперь завод будет получать 50 процентов от прибыли названных мною СП. А совместное предприятие в городе Торонто помимо производственной деятельности представляет интересы нашего завода на североамериканском рынке. Я могу привести еще примеры из этого ряда.

**— Насколько я посвящен в коммерческие тайны, далеко не все договора и контракты “срабатывают”, случаются и промахи, неувязки...**

— Конечно. Без риска в мире бизнеса делать нечего. Опять-таки сошлюсь на мировой опыт. Так вот: по статистике из 50 контактов, проведенных с инофирмами, реальную пользу дают только... два-три. Но, как правило, они компенсируют все предзатраты.

**— ...и тем не менее ваших специалистов, и вас в том числе, по-прежнему упрекают в необоснованности загранкомандировок, в бездумной трате валюты.**

— Да полноте! Затраты уже сполна окупились, а планируемая прибыль от контрактов за этот год обещает быть порядка миллиона долларов. Уже сегодня на счету завода в Национальном банке около ста тысяч доларов, и они работают на экономику республики... Вот видите, я уже и перед вами начинаю отчитываться...

**— Передо мной, положим, не надо. Представляю, как вы себя чувствуете, когда напротив садится очередной ревизор и прокурорским тоном задает вопросы...**

— Ощущение, скажу честно, неприятное. Знаю, что не виноват, но кажется, на меня смотрят не как на директора, а как на человека с уголовным прошлым.

**— Простите, а поездка в олимпийскую Барселону — тоже “производственная необходимость”?**

— Спорить не стану: для меня это наиболее уязвимая позиция. Олимпийские игры я мог бы смотреть, как и вы, сидя у телевизора. Но было одно “но”... В Барселону, словно мотыльки на огонь, слетались “сильные мира сего” не только в спорте, но и в бизнесе. Получил встречное приглашение о переговорах в Барселоне от одной из фирм Эмиратов и я. Упустить такой шанс было непростительно. И я поехал в Испанию. Признаюсь, как на исповеди: там из 8 дней 4 ушло на визиты, встречи, переговоры.

**— Переговоры с кем?**

— С бизнесменами из Объединенных Арабских Эмиратов. В итоге было получено выгодное предложение, а позднее мы заключили сделку на продажу партии наших спортивных тренажеров.

**— Сергей Александрович, скажите, если не секрет, как вы отреагируете на реплику еженедельника “Прессбол”, которая называется “О влиянии оптического станкостроения на технику гребли”.**

— По-деловому. (Усмехается.) К критике, если она конструктивна, всегда прислушиваюсь. А что касается данной реплики в мой адрес, то “подсказку” “Прессбола” возьмем на вооружение. И даю слово, что вслед за уже существующими заводскими секциями баскетбола, борьбы самбо и дзюдо, спортивной акробатики и гимнастики, а также хозрасчетным футбольным клубом “Станкостроитель” в ближайшем будущем появятся у нас и байдарочники и каноисты. А “техника гребли” дело наживное.

**— Но вернемся к делам коммерческим...**

— Уже создается с нигерийской компанией “Брайт Кауриз Интернэшил Лимитэд” совместная компания под названием “Брайт Кауриз-Сморгонь ЗОС (Западная Африка Лимитэд)”. Соглашение было подписано во время моей поездки в Нигерию. Там же, в ходе переговоров, достигнуто соглашение о создании в Сморгони совместной компании, которая будет осуществлять бартерные операции по обеспечению города и других регионов республики продуктами питания, соками, цитрусовыми и так далее. Создание совместной компании в г.Бенин открывает хорошие перспективы для внедрения изделий нашего завода в богатом нефтедолларовом регионе самой Нигерии и других стран Западной Африки.

**— А не продешевите, Сергей Александрович? Нигерия — страна хотя и экзотическая, но разве это партнер?**

— Ох, и живуч же “совковый скептицизм”! Да, Нигерия, да черный континент... Но ведь бывший СССР, а сегодня СНГ, тоже называют “Верхней Вольтой с ракетами”. В данном случае мы прежде всего преследуем цели коммерческие. А именно в этом регионе остро ощущается дефицит очковых линз, установок для вакуумного напыления. Значит, надо и направляться туда, где можно получить наибольшую прибыль. И добиться своей цели не завтра, а — сегодня!

**— Вот слушаю я вас и думаю: вы что, застрахованы от ошибок, от неудач и промахов?**

— От ошибок не застрахован никто. Помните классическое определение: “Не ошибается тот, кто ничего не делает”. И я ошибаюсь. Могу назвать даже примеры. Финская компания “Райшон Ихтимэ” сама предложила нам создать совместное предприятие, есть на то документы, но потом партнеры взяли ход назад. Трижды в прошлом году мы вели переговоры с представителями трех немецких фирм, а сделку заключили только с одной — фирмой “Дентальтехник”. Закупили в ФРГ оборудование для изготовления стоматологического инструмента и создали у себя МП “Стоматолог”. Вы спросите, почему западные бизнесмены так осторожничают? Отвечу: они привыкли иметь дело с партнерами надежными, чтобы действовать наверняка, а наше положение, увы, шаткое — нет пока ни политической, ни экономической, ни правовой стабильности ни в СНГ, ни в Республике Беларусь. Еще не сняты прежние бюрократические барьеры на пути к мировому рынку, а уже новая поросль чиновников ставит свои коварные “ловушки”. И тем не менее бизнесмены к нам едут. Сморгонь, конечно, не Рим, но дороги и западных бизнесменов, и бизнесменов Востока в прошлом году вели на переговоры к нам...

**— Странно все это... Как и то, что вас, руководителя с богатым стажем, профессионала, наконец, кандидата экономических наук, поучают экономисты-заочники, прошедшие курс наук в вечернем университете марксизма-ленинизма...**

— Знаете, когда поступает “социальный заказ”, знание предмета вовсе не обязательно, тут любые средства хороши: копнул пару “жучков”, собрал пару-тройку “жареных фактов”, взял справку на таможне о количестве выездов за границу и... компромат готов.

**— Вы полагаете, что подобные “соцзаказы” существуют?**

— Могу со всей ответственностью сказать: да, существуют, и исходят они из государственных структур. Это — разновидность госмафии, если хотите...

**— А для чего все это?**

— Ну, во-первых, чтобы поддерживать состояние борьбы. Был в свое время “враг классовый”, сегодня — враг абстрактный: то патриоты идут против демократов, то левые против правых и наоборот, то бывшие функционеры против нынешних, то потерявшие кресла против обретших. И борьба не утихает! Сама нынешняя система управления ставит людей перед дилеммой: “Кто не ворует, тот не ест!” И она же, эта система, в каждом подозревает потенциального воришку. Во-вторых, как любил повторять бывший генсек Михаил Сергеевич, “процесс пошел”, а контролируют этот процесс “фигуры умолчания”. Они-то и стараются набросить узду на чересчур ретивых, непослушных хозяйственников, предпринимателей, коммерсантов, бизнесменов, которые не ждут директивных указаний, а берут инициативу на себя, действуют на свой страх и риск. В-третьих, обвиняя, предположим, меня или Иванова, Петрова, Сидорова в пристрастии, скажем, к загранкомандировкам, авторы компромата спят и видят во сне самих себя, выезжающими за границу. В-четвертых, жива и по сию пору ностальгия по “телефонному праву”, когда одним звонком из Центра, из Москвы или Минска отрезвляли и урезонивали любого руководителя любого ранга простые чиновники из главка, министерства, внешторга. В-пятых, начались массированные атаки на кадры старой закалки, на директорский корпус, который в меру своих знаний, опыта и сил еще сдерживает обвал экономики и личным, если хотите, авторитетом удерживает пока предприятия на плаву в штормовом море неуправляемой экономической стихии. Дальше — больше. Превратится, к примеру, завод оптического станкостроения в экономическую развалину, в банкрота, если ему перекрыть “кислород”, “ляжет на лопатки”, и его мигом подберут шустрые ребята, “прихватизируют” по остаточной стоимости за гроши, а потом будут “греть руки” и обогащаться. А заводу ведь цены нет, его потенциал огромен — миллиарды рублей.

**— Но, если верить слухам, и за вашими плечами, Сергей Александрович, тоже стоит мафия...**

— Да, стоит! И этот факт я не скрываю, даже горжусь им. Моя “мафия” — это Совет трудового коллектива. А за ним — сам четырехтысячный трудовой коллектив завода. Я доверяю своим замам, итээровцам, начальникам цехов и отделов, руководителям малых предприятий, людям, которые стоят у станка, а это — умельцы с золотыми руками. Они и есть моя опора и надежда! Год минувший был трудным, но тем не менее темпы роста объемов производства в сопоставимых ценах составили 124 процента. Завод ни дня не был в вынужденном простое, мы не отправляли рабочих за заводскую проходную. Завод работает, прибыль есть, дотаций у государства не просим — сами на свою жизнь зарабатываем, значит, не нахлебники мы. И банкротство нам, видит Бог, не грозит.

**— В логике вам, Сергей Александрович, не откажешь. Да и ваши бойцовские качества мне импонируют. Давайте откровенностью за откровенность: когда плетут за спиной интриги, когда стращают — это еще полбеды. Но ведь уже и стреляют... Читаешь сообщения в газетах и оторопь берет: “убит генеральный директор обогатительной фабрики ”Сибирь” Герасименко”, “застрелен в упор управляющий отделением ”Кузбасспромбанка” Григорьев”, “бандиты расстреляли председателя новокузнецкого кооператива ”Лес”... Скажите, вам не страшно?**

— Нет! А вот примеры, которые вы привели, страшные. Это не что иное, как кровавое эхо все той же борьбы, о которой мы с вами и говорили.

**— Не сигнал ли это к физическому устранению лиц из руководящего состава?**

— Вполне возможно. Трагические уроки прошлого, увы, мало чему научили. Вспомните конец 30-х годов, когда видным ученым, конструкторам, руководителям строек, заводов навешивались ярлыки “врагов народа”, когда обезглавили командный состав Красной Армии, а поднимать солдат на защиту страны от врага настоящего — фашизма — пришлось безусым, необученным лейтенантам...

**— Будем надеяться, Сергей Александрович, что возвращения в ад не будет. А то, что нервы на пределе, — это заметно. Ну не нравитесь вы такой: независимый, взрывной, рисковый, умеющий постоять за себя, непокорный да еще из провинции... Может, лучше махнуть рукой и...**

— Намек я улавливаю...

**— Представим, что ревизоры вас все-таки “достали” и вы подали в отставку. Кем вы станете?**

— Миллионером!

**— ??**

— Сомневаетесь? Тогда — пари! С моим-то опытом, знаниями, с моими-то связями и не стать миллионером?.. Создал бы малое предприятие с выходом на зарубежные рынки, поддержка западных бизнесменов гарантирована — они ценят и уважают людей деловых, предприимчивых. А мы с вами как раз и толкуем о вхождении в “плотные слои рыночной экономики”.

**— Другой бы на вашем месте так и поступил...**

— То-то и оно, что другой... Но дурные примеры, как известно, заразительны. Покину поле боя я, и объектом пристального внимания станет, скажем, мой единомышленник генеральный директор НА “Бобруйскдрев” Владимир Таранов или генеральный директор Минского ПО “Луч” Владимир Абрамчик, или директор Лидского завода “Оптик” Владимир Костюткин. Или... Суть ведь не в том — уйдет или не уйдет Пелих, а в том, выстоит ли директорский корпус как таковой? Вот в чем соль вопроса.

**— Заладили мы однако — все о проблемах, о “черных дырах”... Неужели нет в жизни светлых пятен, светлых дней, Сергей Александрович?**

— Есть, а то как же! Осуществилась моя давняя мечта — открыли в Сморгони лицей, где ребят обучают иностранным языкам, музыке, ритмике, изобразительному искусству. Вышел в свет каталог “Евро-индустрия-93”, где широко представлена продукция СЗОСа. Значит, в мире бизнеса нас, провинциалов, признали! Это радует. Через неделю-другую с конвейера нашего завода сойдут образцы новой продукции — стиральная машина и микроволновая печь. Это, как мы говорим, для дома и для семьи подспорье. Не заметил за суетой, как внук и внучка подросли — Андрею три годика, а Машеньке — год. Жизнь, как видите, продолжается...

**Послесловие**

Перед тем, как поставить последнюю точку в частном журналистском расследовании, процитирую несколько любопытных, на мой взгляд, документов, содержащих информацию к размышлению.

**Из отчета директора Сморгонского ЗОС Пелиха С.А. о командировках за границу с 01.11.91 г. по 15.10.92 г.**

“Итого затрачено на командировки: 3277 ам. долларов, 228 683 рубля.

Итого планируемое поступление валюты — 839 509 ам. долларов...”

**Из протокола N 11 заседания Совета СЗОС от 9.12.92 г.**

“Постановили:

...3. Одобрить итоги командировок директора завода Пелиха С.А. в Болгарию и Нигерию и заключенные там контракты.

4. Считать необоснованным и не соответствующим действительности утверждение газеты “Звязда” об экономической неоправданности зарубежных командировок директора завода.

...6. Считать необходимым смету расходования валютных средств, полученных от экспорта продукции, утверждать на Совете завода”.

**Из пресс-релиза отдела труда и заработной платы завода**

“В декабре 1992 г. средняя зарплата одного работающего составила по заводу 11 684,8 рубля, в том числе рабочего основного производства — 13 002 рубля.

Средний уровень зарплаты на Сморгонском ЗОС составил за январь 18 000 рублей”.

**Из справки заводской канцелярии**

“В 1992 году директор завода Пелих С.А. находился в командировках, в том числе и заграничных, — 201 день...”

По аналогии с известным фильмом Эльдара Рязанова “Ирония судьбы” новогоднюю ночь 1993 года С.А.Пелих встретил в самолете, летевшем рейсом Москва—Красноярск, там же, в далеком сибирском Дивногорске Сергей Александрович не только встретил и провел рождественские праздники, но и подписал контракт о совместном производстве стиральных машин и создании Сибирского центра вакуумной технологии. А вернулся домой, преодолевая капризы Аэрофлота, 16 января. Узнав об этом, я не удержался, чтобы не спросить: “И не осточертела вам, Сергей Александрович, эта нескончаемая командировочная карусель?” В ответ мой собеседник невесело улыбнулся: “Время такое, да и служба...”

И, заключая, об одной оригинальной идее, которую придумали и осуществили не лишенные чувства юмора оптики-оптимисты. Памятуя пушкинскую строку “Ах, злые языки страшнее пистолета!”, внешнеторговая фирма “СЗОС” предложила заводчанам, всем жителям Сморгони телефон доверия: 2-18-02 или 27-48 (внутренний). Вы звоните. Спрашиваете. И получаете исчерпывающую информацию о коммерческих тайнах, торговых сделках с инофирмами, контрактах, дилерских соглашениях и так далее, в том числе и о загранкомандировках представителей завода. Есть надежда, что телефон доверия в состоянии развеять любые слухи. Как дым. Номер телефона 2-18-02 можно набирать и по межгороду. Правда, уже за деньги. Но это все равно обойдется для государства во стократ дешевле, чем высаживать в Сморгони десанты ревизоров.

Звоните. И вам ответят...

Вот и все, пожалуй.

**Вел частное расследование и задавал каверзные вопросы собеседнику Иосиф КАЛЮТА.**

*Ракурс*



Напярэдадні вясны...

Фота Сяргея ГРЫЦА.

*Атас!*

# Вайна цырульнікаў

## Як жа пляскалі ў далоні цырульнікі, калі па краіне прашамацеў ветрык перабудовы.

**Віктар ХАРОШКА**

— Самастойнасць, прыватызацыя, арэнда, розныя формы ўласнасці — гэтыя панацыі, звязаныя з шырокімі перспектывамі лепшага жыцця, перадаваліся з вуснаў у вусны. Як жа тут быць раўнадушным, калі ў сферы абслугоўвання цырульнікам першым прапанавалася ўсталяваць новыя формы арганізацыі працы. Упершыню за дзесяткі гадоў свяціла перспектыва прыватнай уласнасці.

Але пабег няўмольны час, і настрою ў цырульнікаў паменшала. Ці ж маглі яны думаць, што ў выканаўчых структурах пануе ўсё той жа саўковы бюракратызм, дзе асноўным метадам работы з'яўляецца знакамітае “не пушчаць”?

Захацелі, напрыклад, работнікі цырульні нумар 82, што па вуліцы Карастаянавай у Мінску, пайсці на самастойнасць. Распрацавалі статут, аб'яднанне “Усход”, якому падпарадкоўваюцца цырульні, дало дазвол на выхад, упраўленне бытавога абслугоўвання горада таксама падтрымала ініцыятыву знізу, ЖРЭА згадзілася на тое, каб зарэгістраваць юрыдычны адрас. Намеснік старшыні Цэнтральнага райвыканкама нават падпісаў яго. Здавалася б, усё.

Дык не. Справа трапіла ў аддзел па рэгістрацыі райвыканкама. Ох, ужо гэтыя, самыя маленькія бюракраты!

— Так нельга засноўвацца, — сказалі ў аддзеле, як адрэзалі. — Трэба дазвол упраўлення Дзяржмаёмасці.

Цырульнікі накіравалі паперы ва ўпраўленне.

Адтуль адказ: пытанне ў дадзеным выпадку аб дзяржмаёмасці не стаіць. Перашкод для рэгістрацыі няма.

Толькі лягчэй калектыву ад гэтага не стала. Бо, аказваецца, ёсць указанне з гарвыканкама, каб даваць дазвол на рэгістрацыю па месцы знаходжання цырульняў толькі прыватным асобам. А каллектывам — ні ў якім разе.

Чаму? Каму гэта выгадна?

Я доўга шукаў адказ на гэтыя пытанні. І нарэшце, здаецца, знайшоў.

Ёсць у Мінску цырульня пад нумарам 12 па вуліцы Апанскага. Пад рознымі прычынамі не дазволілі там калектыву пайсці на самастойнасць. Пры тых жа аргументах — маўляў, калектыў не зарэгіструюць.

У рэшце рэшт заснавальнікамі сталі чатыры асобы. Заўважу, што сярод іх аказаліся загадчык цырульні і дырэктар “Усхода”.

Што ж калектыў? А нічога. З патэнцыяльных уласнікаў людзі перайшлі ў разрад наймітаў. Бо заснавальнікі сталі таварыствам з абмежаванай адказнасцю і па статуту могуць работнікаў толькі наймаць. Цяпер майстрам даводзяць планы, патрабуюць строгага іх выканання.

Яно б нічога, каб ад гэтага жылося добра ўсім. Але на справе ўсё не так. Дывідэнды дастаюцца толькі чатыром. А найміты атрымліваюць недзе па 2000 рублёў у лепшым выпадку. У горшым — і наогул па 200. І паскардзіцца няма каму. Падатковая інспекцыя пільна сочыць толькі за правільным пералічэннем падаткаў. Унутраныя ж разлікі ніхто не кантралюе. Людзі засталіся бяспраўнымі.

Можа, таму на працоўнай біржы зараз “акалачваецца” так многа цырульнікаў?

Цырульня N 49 ужо каторы дзень праводзіць так званую акупацыйна-фінансавую забастоўку.

Што гэта значыць?

Калектыў таксама хоча самастойнасці. Але начальнік бытавога абслугоўвання горада Аляксандр Каўшар не падпісвае ліст аб згодзе на юрыдычны адрас па месцы работы калектыву. І вызначае маёмасць цырульні выставіць на конкурсны продаж. Маёмасць жа гэтая зроблена пад заказ. Уласнік яе адразу ж заключыць дагавор на арэнду, і бывай мара калектыву на ўласнасць. Выкупіць жа ўсё самі майстры прычосак не змогуць, не хопіць моцы.

Адчуваючы прамы ўціск аб'яднання “Усход”, цырульнікі ідуць яшчэ на адзін апошні крок. Яны адмаўляюцца пераводзіць грошы “Усходу”, а пераводзяць іх на рахунак Канфедэрацыі працы (аднаго з новых прафсаюзаў). Аб'яднанню ж плацяць толькі за арэнду. Прычым на свае сродкі нанялі бухгалтара. “Усход”, зразумела, не стаў мірыцца з такім становішчам і падаў заяву ў пракуратуру, каб прыструніць непаслухмяных. Але адтуль неўзабаве прыйшоў адказ, што ў дзеяннях цырульнікаў вялікага крыміналу няма. Па закону іх можна аштрафаваць на 30 рублёў кожнага.

Горка і балюча ўсведамляць усе гэтыя перыпетыі. Людзі хочуць свабоды ў працы, прадпрымальніцтве, што хоць як бы гарантавала ім будучыню. Але чамусьці “наверсе” такая свабода — як костка ўпоперак горла.

Пішу аб гэтай “вайне цырульнікаў” яшчэ і таму, што аднойчы “Народная газета” ўжо пісала аб такіх штукарствах “усходаўскіх” і райвыканкамаўскіх кручкатвораў. Пасля таго выступлення аж пяці (!) калектывам у Мінску дазволілі рэгістрацыю і самастойнасць.

Прайшло з таго часу ўсяго паўгода. Выступленне газеты забылася, і зноў вайна нерваў. Толькі ці выйграем ад гэтага мы, звычайныя наведвальнікі ўстаноў сферы абслугоўвання? Не здарылася б так, што праз паўгода і прычоску зрабіць будзе нельга з-за чыіхсьці амбіцый.

